Жыве Беларусь ! Dievs, svėti Latviju !

# ГОЛАС БЕЛАРУСА

красавік 1989г N 1 ВЫХОДЗІЦЬ З 1925 ГОДУ (ЗЬ ПЕРАПЫНКАМ)

*ГРАМАДЗКА—КУЛЬТУРНАЕ ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА КУЛЬТУРЫ*

«СЬВІТАНАК» *места* РЫГА

## *СТАТУТ (праект)*
## БТК „СЬВІТАНАК"

I. Беларускае культурнае таварыства "Сьвітанак" — гэта культурна-асьветная арганізацыя, якая аб'ядноўвае на добраахвотных пачатках беларусаў - грамадзянаў Латвіі - прыхільнікаў роднае мовы, культуры і гісторыі якіх цікавяць беларуска-латыскія і латыска-беларускія культурныя сувязі.

2. Таварыства дзейнічае на грунце Канстытуцыі Латвійскай ССР.

3. Таварыства супрацоўнічае з Камітэтам культуры Латвіі, Міністэрствам культуры Беларусі і іншымі культурнымі і творчымі арганізацыямі і таварыствамі Латвіі і Беларусі.

4. Таварыства спрычыняецца да разьвіцьця беларускае і латыскае культураў і моваў, прапагандуе іх сярод беларусаў у Латвіі і на Беларусі.

5. Галоўная мэта дзейнасьці таварыства — спрыяць разьвіцьцю сяброўства і ўзаемаразуменьня паміж усімі народамі, якія жывуць у Латвіі.

6. Формы працы:
   - а. Распаўсюджваньне і папулярызацыя беларускай нацыянальнай культуры, гісторыі і мовы з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі.
   - б. Заснаваньне беларускае бібліятэкі у Рызе.
   - в. Арганізацыя курсаў для ўдасканаленьня і вывучэньня беларускай і латыскай моў.
   - г. Правядзеньне лекцыяў і рэфератаў па пытаньнях культуры і гісторыі Беларусі і Латвіі.
   - д. Арганізацыя і наведваньне канцэртаў, тэатральных пастановак і розных выставаў.
   - е. Арганізацыя мастацкай самадзейнасьці і дзіцячага гуртка выяўленчага мастацтва.
   - ж. Правядзеньне вечарынаў адпачынку, экскурсіяў і творчых сустрэчаў.
   - з. Адзначэньне нацыянальных сьвятаў і юбілеяў славутых людзей.

### Сябры таварыства.

7. Сябрам таварыства можа быць кожны грамадзянін, які мае ня меней за 16 гадоў, незалежна ад яго нацыянальнасьці, сацыяльнага становішча і веравызнаньня, калі ён прызнае статут таварыства і выконвае яго патрабаваньні.
   - а. Сябра таварыства абавязаны ведаць беларускую мову і карыстацца ей на ўсіх сходах і сустрэчах, у выпадку няведаньня беларускай мовы ён павінен яе вывучыць у вызначаны тэрмін.

8. Прыем у таварыства адбываецца па асабістай заяве рашэньнем Рады таварыства.

9. Правы сябра таварыства:
   - а. удзельнічаць ва ўсіх імпрэзах таварыства, выказваць свае погляды, даваць свае прапановы і абмяркоўваць пастаўленыя пытаньні
   - б. арганізоўваць імпрэзы, якія адпавядаюць мэтам і задачам таварыства.
   - в. удзельнічаць у выбарах і быць абраным у Раду таварыства.

10. Сябры таварыства мусяць браць чынны ўдзел ва ўсіх імпрэзах таварыства.

11. Сябра таварыства можа вольна выйсьці з таварыства, паведаміўшы пра гэта у Раду таварыства.

12. Сябра таварыства, які не прызнае статут, можа быць выключаны з таварыства рашэньнем Агульнага сходу, калі за гэта прагаласавалі 2/3 прысутных.

### Арганізацыйная будова.

13. Вышэйшым органам таварыства зьяўляецца Агульны сход.

ЛАРЫСА ГЕНІШ. Невядомая Паэзія.

Надоі, адкормы, ўраджаі...
Ураджаі, надоі, адкормы...-
Мудрасьці іншай ня знае
Зьнявolены раб пакорны.

Адкормы, ўраджаі, надоі
Тэнарм славяць і басам.
Сялянам - праца пры гноі,
Панем - каўбаса і мяса.

На раніцу, ўдзень, на вячэру -
Вышэй усялякай нормы! -
Да болю, да адзічэньня:
Ураджаі, надоі, адкормы...

Ні веры, ні праўды, ні мовы,
Хіба што "Правда" чужая,
Толькі лічбы растуць на паперы:
Надоі, адкормы, ўраджаі...

Слаўся, сьвінагадоўля!
Працуй, стачы дзень у дзьве стойкі!

Усё гэта пойдзе ў Маскоўю,
Беларус абліжацца толькі.

Чаго не даелі госьці
Карэяў, гвінеяў усякіх,
Дык кінуць галёткія косьці -
Грызі беларус, як сабака!..

Таму гора, хто разважае
Пра мінуласьць, правы народа,
Разважаць можна пра ураджаі,
Пра дзяцей нават - не заўсёды.

Пі гарэлку, крычы ўсё: "Слава!",
Што забыліся свае летуценьні.
Узгадуе сыноў дзяржава
І адправіць на аблучэньне.

Ні дабра, ні спагады, ні жалю,
Быць людзьмі ня вучыць "асьвета".
Адкормы, надоі, ўраджаі -
Беларусаў адзіная "мэта".

Пан - над працай, над думкай, над школай
Пану - грошы, машыны, палацы...
Беларус маўчыць як жывёла,
Дзень і ноч цягне лямку-працу.

Падганяюць, сьцебаюць словам:
"Нормы, пляны перапаўняйце!"
У нагароду спаіць гатовыя -
Няхай жонак адлупяць у хаце.

Ня свой лад, не своя управа,
Над народам, дзе глянь, - прыблуды,
Нам быць зь імі - цяжкая справа:
Хто хрышчоны, той не Іўда.

У людзей ёсьць нешта сьвятое,
У беларуса - камочак жалю.
Ураджаі, надоі, адкормы...
Адкормы, надоі, ўраджаі...:

Інстытут не для хлопца зь вёскі,
Асабліва калі сумленны,
Вось паступіць там пан Быкоўскі,
Ды начальства чужое племя.

У Інстытут уетнамец паступіць,
Афрыканец чужы і чорны,
Не паступіць, каго ня купяць,
Пераважна бяруць адборных.



Беларус баранку рукамі
Няхай круціць - п'яны, галодны,
Бо калі пакруціць мазгамі -
Паспытае праваў для народу.

Хай за ўсіх ён біцца гатовы,
Хай сьпявае, плача па Чылі,
Бараніць бо свой род і мову
Яму змалку забаранілі.

На тым езьдзяць, хто йдзе пакорна
Непакорных больш паважаюць.
Хай жа будуць сабе-адкормы,
Сваім людзям нашы ўраджаі!

Калі жыць, дык людзьмі удома,
Мець за працу хлеб і да хлеба,
Мы ня будзем служыць нікому,
Чужой ласкі нам не патрэбна!

## ВЕСТКІ ЗЬ БЕЛАРУСІ.

25 сакавіка 1989 г. МЕНСК.
У адрозьненьне ад папярэдніх гадавін Беларускае Народнае Рэспублікі /БНР/ і абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, 71-ую гадавіну БНР вырашыла адзначыць і адважная менская міліцыя. Праўду сказаўшы, форму сьвяткаваньня была не зусім звычайная — зьбіваньне людзей, якія выйшлі былі на мірную маніфэстацыю з нагоды гэтага так памятнага дня для кожнага беларуса,— заломваньне рук, абразы, зьдзек і г.д.

Сьвята па-міліцэйску ўдалося: некалькі дзесяткаў людзей /некаторыя ў кайданах/ былі адпраўленыя ў Першамайскае адзьдзяленьне г.Менску, больш чым на тысячу рублёў было прысуджана штрафаў... Відаць, менавіта такім чынам міліцэйскі корпус сталіцы Беларусі вырашыў унесьці сваю лепту ў рэспубліканскі бюджэт і гэтым перадухіліць эканамічную крызу ў Рэспубліцы.

## Знаёмцеся: „ТАЛАКА".

Клюб "Талака" ўзнік у 1985 годзе як клюб аховы помнікаў. Ён узнік як нармальная, здаровая рэакцыя: трэба ратаваць помнікі. Талакоўцы прыгадалі такую добрую старую традыцыю супольнай працы — талакі, і перанеслі яе ў горад. Працавалі на раскопках, дапамагалі рэстаўрыраваць помнікі. У статуце "Талакі" запісана, што арганізацыя створана дзеля выхаваньня моладзі ў патрыятычным духу рознымі сродкамі: гэта і талокі, і вандроўкі, і народныя сьвяты.
Лёзунг "Талакі": "Калі хочаш знайсьці свой скарб, сваю Радзіму, гайда ў "Талаку".
Калі нехта раней у Менску гаварыў па-беларуску, дык пэўна было: зь вёскі або пісьменьнік. Цяпер існуе і трэцяя альтэрнатыва: мабыць, з "Талакі".



## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ГІМН

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
на вольны родны свой прастор,
хай воля вечна будзе з намі,
а гвалту_мы дамо адпор,
дамо адпор.

Няхай жыве магутны, сьмелы
наш беларускі родны_дух,
родны дух,
штандар наш бел-чырвона-белы
пакрый сабой народны рух.

На бой за шчасьце і за волю
народу слаўнага свайго,
браты, цярпелі мы даволі
на бой усе да аднаго,
да аднаго.

Імя і сілу беларуса
няхай пачуе й бачыць той,
хто сьмее нам нясьці прымусы
і першы выкліча на бой !

Браты_да шчасьця мы падходзім,
хай гром грыміць яшчэ_мацней,
У крывавых муках мы народзім
жыцьцё Бацькоўшчыны сваей,
жыцьцё Бацькоўшчыны сваей!




/працяг, пачатак на другой стар./

цаваць дзеля дабра роднага краю і народу. Так. Любі, а пасьля рабі, што хочаш, дык і будзеш добрым і сапраўдным беларусам.

ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫХ НУМАРАХ:
- беларусы ў Латвіі: учора, сёньня, заўтра;
- аматарам народнай творчасьці: традыцыйныя і сучасныя беларускія песьні;
- міжнацыянальныя адносіны і Народны Фронт Латвіі
- "Тутэйшыя", "Мартыралог Беларусі", "Сьвітанак".

### УВАГА!УВАГА!УВАГА!

Рэдакцыя зьвяртаецца да чытачоў ды іншых зацікаўленых асобаў з прапановаю дасылаць матар"ялы характару культурна-грамадзкага, палітычнага, эканамічнага, навуковага, літаратурна-мастацкага, гумарыстычнага, сатырычнага, а таксама абвесткі, малюнкі, пытаньні.
Рэдакцыя будзе імкнуцца друкаваць матар"ялы разнастайных поглядаў. Між тым рэдакцыя захоўвае за сабой права іх камэнтару.
Лісты дасылаць на адрас:

226024, РИГА - 24, ул. Силциема,
д. 9, кв. II Ивановой Лидии Петровне.
тэлефон 52-04-I7 /хатні/

Выданьне "Голас беларуса" выдаецца на ахвяраваньні і распаўсюджваецца бясплатна.

Нумар падрыхтаваў Вадзім Паўловіч.

Прапануем чытачам сьпіс выданьняў БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА РУХУ.
Калі хто жадае атрымліваць іх пастаянна няхай зьвяртаецца асабіста да Паўловіча В. ці пісьмова да Івановай Л.П.
I. "Навіны Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне" — выданьне Арганізацыйнага камітэту БНФ "Адраджэньне". Часопіс выходзіць зь лістапада I988г., прыблізна што 20 дзён. Друкуюцца дакумэнты, праекты праграмных тэкстаў БНФ, перадвыбарчыя артыкулы.
2. "Студэнцкая Думка" — грамадзка-палітычны ды культуралягічны часопіс студэнцкага патрыятычнага згуртаваньня "Сьвітанак", Выходзіць зь лістапада I988 г., раз у два месяцы. Друкуе інфармацыю пра беларускае студэнцкае жыцьцё. У будучым рэдакцыйны гурт "Сьвітанка" зробіць часопіс органам усіх менскіх адраджэнскіх суполак студэнтаў.
3. "Кантроль" — бюлетэнь Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя". Выходзіць з канца мінулага года. Падае інфармацыю пра дзейнасьць "Тутэйшых", а таксама хронік_літаратурнага жыцьця рэспублікі.
4. "Супольнасьць" — выданьне Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак. Выходзіць раз на месяц.
5. "Мартыралог" — выданьне беларускага грамадскага гісторыка-асьветніцкага таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі".
6. "Кантакт" — выданьне беластоцкіх беларусоў

Адрас БТК „Сьвітанак":
Рига, вул. Алмату -5.